*Чытайце ўважліва, не прапускаючы словаў, не мінаючы літараў...*

# Аксамітны жах

INTERNATIONAL EDITION

**м. Гомель 1998 рок, травень месяц.** **№2 (рэканструяваны і дапоўнены)**

## Цмачыны край

**Теж уставуем: зверов спракавечных стародавніх цмоков іж ніхто не мает біті альбо мучіті в неволе, як цмок той у пущех або сенажатех гуляет, або теж у болоті сідіт, або теж прыходіт до замку поесті. А хто цковал тово цмока і шкоду ему учініл, або горш тово зобівші гэтак с корыстію схоплены быв, то мает той платіті сорок рублев грошей або бітым пугою на пляцы местскім мае быть.**

Цмачыная значнасьць, замацаваная ў асобным артыкуле Вялікалітоўскага статута надзяляе жывелу ледзь не татэмнымі рысамі, вобраз ягоны, прасякнуты поэтыкай, натхняў і натхняе не адную гурму майстроў пяра й... карабіна. Дзіўныя жывелы што прыносілі золата-срэбра у войстрых кіпцюрох. Хапне дзе-небудзь жмянею пенязяў і зьлету сыпле на вескі, фальваркі, мястэчкі: фацэцыя суцэльная – люд зьбягаецца, галас, таўкавіска... Кажуць, адзін шляхціц трымаў у сваей стайні цмока, што калісь прыдыбаў на бровар сербануць піва й быў там схоплены за ласаю. І раз у рок, на Каляды, выязжаў шляхціц на тым цмоку, запрэжаным у вазок штукарскай работы, катаўся, езьдзіў да цэрькаўкі, нат навучыў жывелу падпяваць калядоўшчыкам.

З цмакамі тубыльцаў зьвязвае агульнае жыцьце-быцьце. То з хвойніку тырчыць калматая галава, то пранясецца груваcткая хвігура над далекім альхоўнікам, то па беразе рачным брыдзе цмачыная кампанія – па рыбу. Ноччу часта палохаюць яны рэдкіх хадзьбітаў сваімі буйнымі абрысамі і бляскам вачэй, у якіх адбіваецца Поўня.



Пялевяніе ня цмоковъ в Гомельском нявяколіі. Пыхяе огнемъ, крутіть хвостомъ, полохяе зубямі, крычыть. Летяючы кусяе і біе. Зверь спрытен велмі і мудр. Зол во бороненіі норокъ своіх. Ніхяй жыве і пясецця цмок.

Адная бабулька распавядала мне, што калісьці чула цмачыныя сьпевы. У лесе заблукаўшы, выйшла яна на лясную прагаліну і ўбачыла крылатую сьпіну. Цмок ціхенька намагаўся напяваць вядомую ў нашых краех мэлодыю, хоць натуральна, правілы гармоніі былі яму невядомыя. Але...

Зірні з вышыні цмачынага палету...

**Знаемы Вам. 1994**

## “Міфы Бацькаўшчыны”

**Шаноўны чытач нашае газэткі, мусім адзначыць, што невыпадкова ўвесь нумаровы матар’ял прысьвечаны калярытнаму цмачынаму пытаньню, якое раз-пораз бярэцца абмяркоўваць калектыў рэдакцыі, заклікаючы браць удзел у гэтым усіх зацікауленых асобаў.**

**Працягваючы ўлюбеную тэматыку, прыводзім вытрымку з працы вядомага беларускага фальклярыста і этнографа Нікіфароускага М.Я. (1845 - 1910) “Нечистики. Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе. Вильна, 1907”.**

Цмок жыве і дзейнічае сам па сабе, яго не любяць іншыя нячысцікі з-за яго фанабэрыстасці. Дзякуючы прыроднай ляноце, нерухавасці з-за таўшчыні, Цмок не заўседы адгукаецца дапамагчы на заклік чалавека ці на заклік іншага нячысціка. Аднак, калі ен падступіўся да ахвяры – абавязкова дамучыць яе, папярэдне ўзважыўшы, ці варта яна яго ўвагі, парушанага спакою; калі не – Цмок пагардліва адварочваецца, пакідаючы яе іншым нячысцікам.

Знешне Цмок акуратнейшы за астатніх нячысцікаў, любіць купацца, ходзіць у лазьню і штодзенна мыецца... Прадбачлівая асьцярожнасьць захоўвае Цмокаў даўжэй чым усіх нячысцікаў. Яны рэдка чапляюцца да простых вясковых людзей. На людзей сямейных Цмокі не нападаюць. Затое парушальнікі грамадзкіх абавязкаў – першыя іх ахвяры.

**“Міфы Бацькаўшчыны”**
**(Менск, Бел. энцыкляпедыя, 1994).**

**Каштоўны фальклёрны матар'ял падае новыя характэрныя нюансы слынных жывёлаў, якія чамусьці аднесеныя да заганнага ключа нячысьцікаў і з гэтага ўзмоцненыя вялікаю літарай. Аднак беліцкае кола дасьледчыкаў лічыць гэтую акалічнасьць памылковаю. Цмок такі ж прадстаўнік фаўны як вядомыя нам крот, лось, сом ды іншыя, і міфічнага ў ім не болей за барсукова.**

# Цмок – Палесскія факты.

Велемнога таямніцаў ахутваюць цмачыны вобраз: чым харчуецца, як росьціць дзетак, на каго нападае і каму сімпатызуе, ў чым сакрэт агнамянасьці і лёккага палёту і адкуль гэтая прыродная поэтычнасць натуры?

Пры ўсёй сваёй сярэдняй агрэсіўнасьці цмок ёсьць даволі палахліваю жывёлінай й упадабаў для жыцьцястану гушчары затканыя імглою, лясныя нетры паўдзённа-ўсходняе Беларусі у мейсцах канцэнтрацыі археалагічных помнікаў, ды палесскія алёсы*, дзе сярод астраўцоў гадуе сваё нешматлікае сямейства. Але пры ўсёй сваёй міратворнасьці жывёла не дапусьціць назіраньня за сабою, асабліва ў любасны пэрыод і пагатоў тады, калі водзіць дзетак паказваючы ім родную старонку. Існуе павер'е, што цмакі аберагаюць гарадзішчы і курганы ад рабаваньня і гвалту, але мусіць гэта хутчэй легенда, хоць як вядома аніводная легенда не ўзьнікла на голым мейсцы. Дык вось, раптам на голым мейсцы сустрэнецца цмаку чалавек з намерамі варожымі падступнымі і будзе ён брыдка лаяцца і біць шклатару аб пніскі і камяні, або яшчэ горай: страляць у бесьціек Босскіх і крыўдзіць флёру й фаўну – умомант спапяліць гэткага п'янтоса. Бо, як у кароўцы травяная жуйка перапрацоўваецца ў малако, гэтак і цмок мае вогненую сумесь кшталту напалму, што ўтвараецца пры зьмяшэньні такіх прыродных складнікаў, як мухамор (альбо іншыя труйныя і неядомыя грыбы), хвошч, будзякі, ваўчыная ягада, шышкі хваі і яліны, жывіца, блёкат ды інш. Як лічыць беліцкае кола дасьледчыкаў, з дапамогаю ўласнага фэрменту гэтая кашыца перапрацоўваецца (пераганяецца) ў вадкасьць, што пры ўдары зубамі ўспалымняецца**, выкідаецца пры патрэбе на 100-120 крокаў з ідэальнай прыцэльнасьцю. Датагож пры спаленьні яе выдзяляецца таксічны газ, што мае спецэфічныя наступствы: людзі часова забываюць расейскую мову й ключавыя даты з савецкае гісторыі, жывёлы разумнеюць у дзесяць разоў.

Фізічныя вартасьці цмакоў неаднакроць выкарыстоўваліся ў палітычных кан'юктурных патрэбах у перыяд працяглых казацкіх войнаў раптоўна паўстаўшым насельніцтвам й казачымі аддзеламі пры аблогах замкаў і местаў. Маючы на руках урывак з "Хронікі Рабрынкі" прыводзім яго на старонках нашага аксамітнага выданьня : "**А яко место Чичерск боем брали под паркан с цмоками и паркан той папалили и людство служилое и мещан и шляхту нещадно цковали и мучили велми. Не маючи же супротиву жадного цмочин тых непобожно на людство напущали.**"*** Такі кавалак драматычнага тэксту красамоўна сьведчыць аб цмачыным існаваньні, пастаўленым пад сумнёў асобнымі навукоўцамі, якіх рука не падымаецца назваць як-небудзьнакш.

**Яфрэйтар Ліфаноўскі**

---

**Нарэшце за пяро ўзяўся яшчэ адзін аўтар, якога ўсе лічылі закрэсьленым суворою праўдаю жыцьця, але, як высьветлелася канцептуальны рэмонт кватэры не перашкаджае павольнаму бегу думак.**

# Мілыя сэрцу Космасы...

Той з шчырых местачкоўцаў хто ўжо далучыўся датыкнуўся да правінцыйнае астраноміі, хто ўжо ведае-фіксуе зрокам мясцовыя сузор'і: Лухтамётніка****, Канцлера, Вераб'я, Партызана, той не праміне Левую Цмачыху, бо яна ёсьць дамінантаю ў начным навакольным небе. Згодны, марна спрачацца з тым, што сузорейкі нашыя і памерамі невялікія і не надта зыркія і не такія вядомыя, але хіба можна прамінуць іх мілуючыся Сірыўсам ды Вэнэраю?

Як і сузор'е Лухтамётніка, Левая Цмачыха ўзыходзіць у найболей спрыяльны час недзе над Якубоўкай і красуе аж да чацьвёртае раніцы. Толькі нямногія рыбакі-прафэсіоналы ведаюць, што ў гэтую гадзіну найлепей ловіцца сом, а як сам не ловіцца, дык дапамагае злавіць каго другога.

Яшчэ баюць, што калі Левая Цмачыха дачакаецца сонца, дык у дзень гэты сьмела можна спажываць хоць паганкі – ўсё пойдзе на карысьць, праўда людзей што эксперыментавалі з гэтым я пакуль не сустракаў. Усяго ж сузор'е складаецца з чатырнаццаці зорак, дзьве з якіх, а можа толькі адна, звышцмачыная.

Лёкка, зірнуўшы на нашае неба разабрацца дзе поўнач: хвост Цмачыхі ўказуе проста той накірунак, але калі ён указуе на поўдзень, а такое часта здараецца, дык, тое бясспрэчна поўдзень і ёсьць. Такім чынам нецяжка дазнацца і надвор'я, бо калі Левую Цмачыху нябачна, то хмары засьцілі неба, а калі валіць сьнег, дык пагатоў, як не глядзіце, Цмачыхі ня ўбачыце. Але, хоць ты сьнег, хоць ты пляга, хоць ты смог над горадам, зьзяюць ды йскрацца цмачыныя зоркі, мілыя сэрцу Космасы па-над Бацькаўшчынай, у небе дзядоў і прадзедаў нашых. Таму трэба пакідаць задушлівы горад і бегчы ад убранізацыі як Жылін і Кастылін.*****

**...севіч**

**Чытайце у наступных нумарах!**




---

* Алёс - балота зарослае лесам

** Як вядома з пэўных крыніцаў два зубы ў цмака крамянёвыя, пры удары якіх выбіваецца іскра, неабходная для ўспаленьня агнамянае вадкасьці. (Заўвага мая, Л.,яфр.)

*** Хроніка Рабрынкі Пачатак XVIIIст. (Са збору Якава Пятровіча Стывенсана т. XIX, ст. 474).

**** Сузор'е Лухтаметніка шырока вядома вузкаму колу літара-тараў-маразматыкаў маладой катакомбнай фармацыі і пра гэта, на-туральна, размова асабовая.

***** Жылін і Кастылін - пэрсонажы твору Л.М.Талстога "Каўкасскі палоньнік".

**Рэдактар: Т.Буль-Бутэліч, Макетоўшчыкі: Аромат Гімалаеў, Ю.Дынкін, Мастак: А.Скідан. Цмок узгадваўся у газэтке сорак адзін раз. © Орыгінальна idea: Творчая кампанія вольных мастакоў "Магілка". Кант. тэл. 488-990**

**Наклад: ас. Папера афсэтная. Друк трафарэтны. Выдана пры падтрымцы Гомельскай маладзёвай краязнаўчай арганізацыі "Талака". Падпісана ў друк няцьвёрдай рукой а другой гадзіне ночы.**